— То скуль жа ж будзеце? — гукнула яна, раптоўна анямеўшы і чакаючы, што ён скажа. І ёй падалося, што ён прыстакнуў, на міг спыніўся. Але не — ён ішоў. Ён, мусіць, не чуў яе голасу. Ён ішоў да веснікаў, трымаючы пад пахамі тыя два снапы акалоту; каласы трасліся, але ўжо не было чуваць, як яны шасталі. А за ім сыпаў і гусцеў снег. Ад гумна да хаты пачала стракацець сырая сцежка, і ўжо былі знаць на ёй яго чорныя сляды. Ён схаваўся за веснікамі, мільгануўшы яшчэ жоўтымі снапамі. Яна выйшла з гумна, не зачыніўшы нават дзвярэй.

«Божа, скуль жа яны?..»

Яна стаяла абамлелая і ўжо не чула, як пагарэльцы гукалі на каня, як на яе падаў і шархацеў па голых дубцах ссохлых кветак першы снег. Не бачыла, як пачынала сівець зялёная каля плота трава.

Ёй зноў спаміналася тое труднае пераспелае лета, палавое жыта, спаміналася, як яна, звар'яцелая, бегла полем, згубіўшы хустку, туды, пад мястэчка, дзе на грудку сярод шашы ляжаў ён, яе самы меншы, Петрык, з тою нямецкаю лапаткаю з кароткім чаранком.

А снег усё падаў і раставаў халоднымі слязьмі на яе зжоўклых худых шчоках, блішчаў расою на чорнай плюшавай камізэльцы. Ужо забялелася сырая сцежка ад гумна да хаты, толькі малая лужына на ёй была яшчэ чорная.

Гэта быў ужо каторы малады снег, як няма яе меншага сына.

*1972*

## НА ТУТЭЙШАЙ ЗЯМЛІ

Яно, гэтае кароценькае апавяданне, хавалася ўсё надалей, як хаваецца чалавекам нешта самае найдарожшае, як хавае мая маці ў сваім куфры сярод іншага хатняга спрату — радзюжак, абрусаў, падораных ужо нявесткамі «адрэзаў» на сукенкі ды кофты — сувой кужэльнага тонкага палатна, вытканага яшчэ дзяўчынаю разам з нябожчыцай мацераю, маёй бабай Югасяй.

Прыязджаючы тады-сяды дадому, у тую вёсачку, што ціха стаіць пры бойкай грукатлівай шашы, ужо з новымі накрытымі зеленаватым шыферам хатамі, над якімі яшчэ там-сям высокімі каўпакамі саламяных, у карычневых

купінах моху, стрэх падымаюцца гумны, дзе ўжо даўнютка не чуваць рытмічнага, што глухім ляскатам аддаецца за чужымі будынкамі перабою цапоў, калі малоцяць утрох, або, як у нас кажуць, утрэйгу, дык, прыязджаючы дадому, да свае тутаркі, без якое ўжо нідзе, як стары без кія, абысціся не магу, я пачынаў выпытваць пра што-небудзь даўнейшае, і маці ўсё аднеквалася: «Вой, ці ж помню я?»

Цяжка ёй было праспяваць і тую жаласную песню, каторую яна спявала сабе і мне, седзячы ў свабодную хвілінку ад хатняе работы за прасцінаю і пстрыкаючы яшчэ лёгкім пустым верацяном:

Едзе мужычок з дальняй дарогі,
Да ўпала былінушка яму на ногі...

Тонкаю былінкаю на быльнікавых межах нашага спакон веку гора была яна, яго жонка, якую ён «зрубаў па самы камлёк», асіраціўшы сваіх дзетак.

Колькі трагізму, колькі нязноснае мэнкі было ў гэтай простай нашай песні, што варта ўсіх вялікіх драм свету — сённяшніх і даўнейшых.

«Цяжка мне спяваць. Ужо занывае чалавек...»

Гэта яна праз нейкага чалавека казала ўсё пра сябе. Але нешта шукаючы ці перабіраючы незнарок у сваім куфры, яна, раптам схамянуўшыся, што, мусіць, мне будзе і цікава, клікала мяне, перабірала гэтыя падораныя нявесткамі адрэзы і, нібы наракаючы: «Ай, нашто мне дарагое... Ды ці ж знашу я?.. Гэта ж вашае, так і забярыце па смерці...» — даставала той ужо зляжалы гадамі сувой тонкага кужэльнага палатна.

— Звалялася тут у купры. Во, глянь, хіба лепшае цяперашняе крамнае? Вой, не... Дзеду майму во з гэтакага палатна рубашкі шылі. Хараша было: белая рубашка ды яшчэ падпяразаная вытканым паяском...

У кожнага чалавека ёсць тое, пра што найбліжэй успамінаецца, пра што найлепш расказваецца, што хаваецца надалей, як хавае мая маці сувой кужэльнага, тонкага, свае работы палатна.

Сярод таго найдарожшага, што маю я ў сваім хатнім, ці мо, праўдзівей сказаць, кніжным спрацe, ёсць адна кніжка, якую я, здымаючы з паліцы, таму-сяму паказваю, прыгануўшы таксама матчына: «Глянь, мо табе будзе цікава...»

Гэтую пятоўстую кніжку з кавалачкам чырвонага арнаменту на жаўтлява-шэрай, як спалавелае жыта, папя-

ровай вокладцы я ўбачыў першы раз у Янэчкавай хаце. Яна, усяго адна, ляжала па вузкім століку, у якім свіцілася касая, як улезці пальцу, дзірачка, дзе вылушчыўся сук.

Гэты невялікі, змацаваны паперочкамі столік стаяў у покуці пад зашклёным абразом, прыперты адным бокам да глухое, што выгарбілася ад старасці, сцяны.

Трухлявая, яшчэ мо прадзедава хата з трыма неашалёванымі аконцамі, з уваленаю і падпертаю тоўстым слупком бэлькаю, як надзіва збераглася ад пажару, што выкаціў усю нашу вёску, якраз у маладое лета 41 года, у самы полудзень, калі прывялы бэз пахне зялёнымі смярдзючымі жукамі, а над нагрэтымі стрэхамі дрыжыць, пераліваючыся, мроіва. Акурат тады з грудка, з белаватае ад перацёртага жвіру і каменняў шашы, дзе абочынаю яшчэ ішлі па адным, а то і купкамі недзе з-пад самага Беластока нашы змэнчаныя, здарожаныя салдаты, па гэтых сухіх, як порах, стрэхах і пачалі страляць запальнымі кулямі і снарадамі немцы.

У маёй памяці яшчэ і сёння жыве той тугі, нібы нацягнуты звінючы дрот, свіст раз'юшаных куль і кароткі, з ляскам, як перуна ў камень, выбух снарадаў.

За нашым абпаленым, ужо чорным ад скурчанага лісця бэзам, за нашым недагарэўшым плотам, у якім яшчэ лускалі і курыліся асмалкі дубовых шулаў і сасновых крохкіх жэрдкаў, усяго цераз вуліцу і асталася стаяць гэтая парожняя Янэчкава хата...

Адбудоўвацца нашы людзі пачалі патрохі яшчэ вайною, стаўляючы спярша не хаты, а гумны (ёсць гумно — ёсць спрат на збожжа, а значыць ёсць хлеб), жывучы ў чаго-небудзь па хутарах на падсуседах, у скіданых да часу хлеўчыках або нават у гумнах, разгарадзіўшы адну старану на два куткі — для сябе і для свайго быдла.

Страціўшы новую, што стаяла на самым грудку, у канцы вёскі, хату з недакрытымі яшчэ сеньмі і, помню, сырым мяккаватым, што ліп да босых ног, токам, Янэчкі вярнуліся жыць у гэтую старую дзедаву хату. Як знак аб вайне ў ёй асталіся толькі дзве туга забітыя шпунтамі дзіркі: хату навылёт прабіў снарад, бухнуўшыся якраз на картапляную яму, у якой сядзелі папратаныя суседнія дзеці, узрыў пясок, дайшоўшы да столі, але крый бог, не ўзарваўся.

Успамінаючы тую далёкую пору, той другі ці трэці пасляваенны год, я ўспамінаю і гэтую старую Янэчкаву

хату, абкладзеную на зіму аж па самыя вокны сухім порсткім картаплянікам, на які, хаваючыся ад холаду, узляталі куры, хадзіў, заглядаючы ў зеленаватыя ад марозу вокны, рабы цыбаты певень з чырвоным, закручаным на адно вока грэбенем.

Тады ў гэтай хаце жыла, калі гэта тое слова, а мо больш — прасіла і без таго блізкае смерці, не могучы нават па сваёй патрэбе падняцца з ложка, спаралізаваная Янэчкава Зося. Яе мужык, невысокі, заўсёды з ганарыста насунутай на адно вуха кепкай, у шэрым суконным фрэнчы з нагруднымі кішэнямі, у шэрых суконных брыджах, Янэчак яшчэ перад вайною, робячы на дзве гаспадаркі — сваю і дзябёлае ўдавы Тадоры з суседняе вёскі,— жыў спярша ўдома, а потым, калі згарэла яго новая хата, стаў памагаць толькі ўдаве, кінуўшы ўсю сваю гаспадарку на хворую жонку і двух недарослых сыноў. Большаму з іх, прысадзістаму, шыракаватаму ў плячах Натолю, было год шаснаццаць; худому, дробненькаму з твару, з рэдзенькім, як выкачанымі ў малога дзіцяці, валасамі, што доўга адрасталі пасля тыфу Жэніку — не болей як чатырнаццаць. Здаецца, ён на цэлы год быў старэйшы за мяне.

На самаробных лыжах (трохі ачэсаных і падбітых бляхаю, каб не зарываліся ў снег, штыкецінах) мы заўсёды каталіся з ім з таго невысокага грудка, што пачынаўся адразу за прыбудаванымі да хаты дашчанымі, абкладзенымі троснікам сенцамі, дзе стаяла абсіверaная ў маразы іхняя карова. Пры грудку некалі рос садок і была пчэльня. Яшчэ і цяпер каля збуцвелага, у шэрым лішаі плота выглядалі з-пад снегу абсыпаныя сівым інеем маладыя пасынкі ад старых сліў, на тоўстых козлах ляжаў вулей — доўгая патрэсканая калода з выдраным верхнікам — у жоўтым ад воску жолабе чорнаю горбачкаю ляжалі памерзлыя, скурчаныя пчолы.

Некаторыя з іх, ледзьве жывыя, поўзалі ў сярэдзіне калоды, звальваючыся з гэтага сухога воску на дно жолаба, у горбачку сухіх пчол. Перамершы, паскручваўшы галоўкі і лапкі, ляжалі яны і каля вулля — чорныя на порсткім белым снезе.

Ад шэрас калоды, ад памерзлых пчол, як ад жоўтага лубіну сярод лета, пахла густым мядовым духам.

Выкруціўшы дзе з плота, з адарванае штыкеціны цвік, мы з Жэнікам адкалупвалі ў вуллі гэты пусты, што ліп да зубоў, воск і ішлі ў Янэчкаву хату грэцца.

Нос збіваў кіслы затхлы дух, пахла курамі, што праз рэдзенькія драбінцы высоўвалі з-пад печы галовы, дзеўбучы ў прыстаўленым карыце кіслае перасохлае цеста, лякарствам і хворым чалавекам. На драўляным, усяго адным у хаце, ложку, што стаяў недалёка ад слупка, які падпіраў трэснутую, уваленую бэльку, ляжала Жэнікава маці. На худой выпетранай руцэ, што была наверсе выцвілай, у гарбах злямцаванай кудзелі, коўдры, паскручваліся вузлаватыя пальцы. На схудзелым жаўтлявым твары, у паўпаданых вачах з цёмна-сіняватымі вачніцамі стыла пакута.

— Дзе ж ты цеперся быў? Божа ты мой моцны, божа ты мой свенты! Я ж цябе дачакацца не магла... Падай мне гарнушак...

— Паспееш, дай раздзенуся,— саромеючыся, мусіць, мяне, Жэнік не хочучы браў з памялешніка паліваны начны гарнушак.

Я адварочваўся да сцяны, што была ад зямлі аж да столі заклеена газетамі, перачытваючы ўжо ці адзін раз тыя кароценькія-карацюсенькія інфармацыі пра вывазку лесу.

Газеты выпісваў Жэнікаў брат Натоль, кожны раз ходзячы за імі ў мястэчка сам — паштальёна тады ў нашай дакалгаснай вёсцы не было, і якое пісьмо ці газету аддавалі звычайна таму, хто, прыйшоўшы на пошту, усоўваў галаў у зашмальцаванае, заляпанае густым чарнілам акенца. Пахадзіўшы па чужых хатах, скамечанае, а то і перачытанае, нядбала заклеенае мякішам хлеба, яно нарэшце трапляла да таго, каму пісалася.

Пераглядаючы выцвілыя на сцяне газеты, я ціхенька падступаўся да стала, дзе ляжала гэтая жаўтлява-шэрая, як спалавелае жыта, кніга з кавалачкам чырвонага арнаменту на вокладцы, абапал якога чорнымі велікаватымі літарамі было напісана: «Янка Купала». І яна, гэтая мяккая кніжка, калі ты яе возьмеш у рукі, неяк сама і адразу адкрывалася на тым, простым, мілагучным вершыку, што браў за сэрца, агортваў жалем душу, як агортвала яе мацерына песня пра тую «зрубаную па самы камлёк былінку».

На тутэйшай зямлі
Дзве сястрыцы жылі,
Як забытыя ў лесе каліны...

Астатні радок у мяне трохі перайначваўся і чытаўся: «як забітыя ў лузе каліны», як ссечаныя тою востраю сяке-

раю, толькі не на шчарбатым парозе, а ўжо недзе там, каля нашае рэчачкі, дзе тоўстай белай коўдрай да цемнаватае вады звісаў з берага снег і па ім чырванелі ссечаныя наўскасяк, расшчэпленыя пні маладога алешніку. Лясоў у нас не было, людзі палілі ўсё гэтым дробным пруткім алешнікам, пасечаным і высушаным за ноч у печы. І мне нават пачынала здавацца, што там, за Янэчкаваю хатаю, за белым, як на шырокім стале абрусам, балотцам, у шэрасіняватай смузе маладога алешніку дрыжаць ад гаку сякеры гэтыя тонкія, з чырванню рэдзенькіх перамерзлых ягад шэрыя каліны, абярнуўшыся ў нешта жывое — у маладых сястрыц...

Вярнуўшыся дадому і застаўшы мяне каля кніжкі, Натоль даставаў я кішэні скручаныя газеты, клаў іх на стол і, дыхнуўшы з падворка холадам, пытаўся:

— А што, цікавая кніжка?

— Ой, табе ўсё наўме газэты і ксёнжкі,— адзывалася адтуль з ложка нейкім асіплым нядужым голасам Зося.— Карова во каторая пара галодная стаіць...

— А чаму ён не накарміў? — Натоль паказваў галавою на Жэніка.

— Ён такі самы, як і ты. Абодва роўныя...

Натоль ішоў даваць карове, варочаючыся назад у хату з нацярушанаю на плечы жоўтаю ячнаю, недзе з трасянкі, саломаю. Здымаў з галавы чорную, у кліны кепачку з абшытым гузікам, падграбаў пяцярнёю рудаватыя, у кудзерках, валасы і пачынаў расказваць па памяці:

Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!

Прыплюшчыўшы вочы, задзіраў голаў. Потым, счакаўшы, нібы астываў ад нейкае гарачкі і пачынаў трохі ганарыста вокаць і махаць рукою:

— Во, яшчэ з чацвёртага класа помню! Перад вайною вучыў...

Цяпер ужо, пасля вайны, Натоль у школу не хадзіў — было не да яе. Ранецька, яшчэ зацемна, ён кожны дзень ішоў у мястэчка на станцыю, каб прыпільнаваць, калі прыйдзе на перавалачную базу шэрая, закураная трохі сажаю ад паравозаў у адкрытых платформах соль, і, разгрузіўшы яе, зарабіць якую дзесятку ці дзве.

— Ну як там з работаю? Ці зарабіў які рубель? — не могучы, падсоўвалася на чырвоныя без пахваў падушкі спаралізаваная Зося.

— А чаго ж, зарабіў!.. На газеты хваціць...

— О, каб імі жыў чалавек... Каб іх з'еў ці апрануўся імі...— Зося адварочвала да сцяны сваю галаву — ззаду на патыліцы целяпалася заплеценая на кужэльны, вырваны з старое сарочкі, пасачак, тонкая, хвішчаватая каса.

Натоль зірнуў туды на ложак, дзе ляжала хворая маці, потым узяў з маіх рук кніжку, моўчкі пагартаў:

— Э, каб, здэцца, грамаці больш меў, можа, і сам такое склаў бы.

І прачытаў, памахаўшы галавою:

Што я мужык, усе тут знаюць...

Што ён прабаваў «складаць», пра гэта я здагадаўся трохі пазней, калі пазычыў у яго на дзён колькі гэтую кніжку ў жаўтлява-шэрай, як спалавелае жыта, папяровай вокладцы,— першае пасмяротнае выданне Янкі Купалы.

Я тады ўжо скончыў шосты клас і, дачуўшыся ад настаўніка, што Якуб Колас у дваццаць год напісаў свой першы верш, стаў таксама, як у нас кажуць, набыльваць вершыкамі, спадцішка і толькі для самога сябе запісваючы іх у нейкі танны блакноцік з жаўтляваю ў стрэмках папераю, на якой, пускаючы вострыя іголачкі, расплывалася чарніла.

З якой радасцю, з якім набоствам я чытаў гэтую першую ў нашай хаце кніжку Янкі Купалы. І вечарам, слепячыся каля газоўкі, што курыла на мурку каля коміна, і наранні, перад снеданнем, за тым адным у хаце сталом, дзе дымілася ружаватаю параю высыпаная з цагана на стол звараная картопля і пахла з глінянага цёрла падсмажаным патоўчаным качалкаю льняным семем.

Неяк сярод дня Натоль зайшоў да нас проста так, як кажуць, на сяло. Расшпіліў свой белы нядублены, а толькі з садранаю скрэблам мязгою, пашмараваны мелам кажушок, сеў на нашым высокім парозе і, задраўшы голаў, спытаў:

— А ты ўсё гэтую ксёнжачку чытаеш? Цікава, бачу, табе...

Перада мною на стале папраўдзе ляжала тая пазычаная ў яго кніжка выбраных твораў Купалы.

— Я табе яе аддам, раз ужо так... Я прачытаў... Усю... І скажу табе — адзін столькі вершыкаў не складзеш!

— Чаму? — я ганарыста пасмехваўся, бо меў ужо нейкі вопыт, ледзьве не кожны дзень «складаючы» па вершу і запісваючы іх у той шэры са стрэмкамі на паперы блакнот.

— Ну дзе ты бачыў, каб адзін ды столькі вершыкаў склаў? Во папробуй...

— А хто ж яму складаў?

— Хто? — Натоль, зашамацеўшы сваім злубянелым кажухом, падняўся з парога.— Людзі — хто ж! Трохі з сябе, трохі ад людзей запісаў...

Натоль падышоў да стала, узяў кніжку, на растапыранай руцэ паважыў яе.

— Глядзі, якая вагкая... Дзе ты адзін столькі складзеш? Ты мне не кажы...

Ды я тады яго і не перамог, а паказваць свой руды і таксама ўжо вагкі блакнот пасаромеўся...

Некалькі год назад, перабіраючы ў сваім кніжным куфэрку, што хаваўся яшчэ ўдома на гары, сярод іншых, выпадкам купленых кніжак, я знайшоў гэты томік выбраных твораў Янкі Купалы — першую, калі не лічыць тых двух-трох падручнікаў, якія можна было дастаць пасля вайны, кніжку ў нашай хаце, каб берагчы яе як нейкую памятку, як беражэ мая маці скрутак таго тонкага, вытканага разам з нябожчыцаю мацераю кужэльнага палатна.

Калі я бяру ў рукі гэтую ўжо зжоўклую кніжку з сінім, трохі пад нябескі колер партрэтам разумнага, прыгожага і ціхага чалавека з нейкім, як выдае, насцярожаным позіркам у прыжмураных вачах, я ўспамінаю Натоля (дарэчы, ён, як і яго брат Жэнік, выбудаваўшы сабе новыя хаты, абкідаўшыся дзецьмі, жывуць у нашай вёсцы) і думаю, што няма на свеце таго, што ты любіў бы толькі адзін, што ёсць людзі, якія памагалі табе складаць, што ў іхняй душы таксама жыла і жыве паэзія, што іхняя душа чула і чуе хараство.

«Трохі з сябе, трохі ад людзей запісаў».

У гэтым наіўным прызнанні, можа, ёсць тая моц і тая бясконцая веліч Янкі Купалы.

*1974*